

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№72(585) 17 красавіка 1993 г. Субота. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 625667 экз. Кошт у розніцу — 4 руб.


## ФАКС

### Только бы не просвистеть Россию...

**Более 6000 представителей делового партнерства из 39 регионов России собрал вчера на очередной съезд в Кремлевском Дворце президент Российского Союза промышленников и предпринимателей А.Вольский. Почетным гостем на съезде был Борис Ельцин.**

Эта встреча была неожиданно отмечена конфузом. Во время своего выступления российский президент допустил, по мнению части аудитории, неточности в оценке состояния экономики России, на что присутствующие ответили свистом и выкриками. Ведущий форум А.Вольский вынужден был вмешаться и навести порядок.

И все же призыв Б.Ельцина к консолидации властей с организаторами производств был услышан. Как сказано в принятых на съезде документах, возврата к старой государственной модели не будет.

Леонид ФАДЕЕВ.

### Будьте здоровы, подсудимый!

**Суд по делу ГКЧП объявил бессрочный перерыв до получения официальной справки о состоянии здоровья подсудимого Александра Тизякова, который был позавчера госпитализирован из зала суда в предынфарктном состоянии и до сих пор находится в реанимации.**

По словам Александра Клигмана, его подзащитный перенес инфаркт миокарда. Приглашенный в зал суда врач заявил, что Тизяков, вероятно, сможет возобновить участие в процессе через 12—20 дней.

Александр КРАСУЛИН.

### Только без паники!

**Министерство по атомной энергии России опровергло утверждение представителей российского отделения международной организации "Гринпис" о "сокрытии действительных результатов, связанных с аварией в Томске-7".**

Попытка "Гринпис", используя инцидент в Томске-7, раздуть радиофобию, создать панику и подорвать доверие населения страны к правительству России накануне всероссийского референдума, заявил начальник управления по информации и связям с общественностью Минатома России Георгий Кауров, не может расцениваться иначе как провокация и не имеет ничего общего с заботой о благополучии российского народа.

### Сребреница — в орудийных прицелах

**По заявлению представителей ООН, ситуация в боснийском городе Сребреница быстро ухудшается по мере продвижения сюда сербских сил.**

Город подвергается сильному артобстрелу. ООН пытается предотвратить расправу с гражданским населением в случае захвата Сребреницы. В городе находится около 60 000 гражданских лиц — мусульман, причем многие из них беженцы.

### Тетя, видно, пошутила

**Пассажирский самолет Аэрофлота Ту-154 не смог вчера утром вылететь с Кипра в связи с тем, что в местную полицию позвонила женщина, утверждавшая, что на борту самолета находится бомба.**

Самолет сделал промежуточную остановку по Кипре на пути из Адена в Москву и готовился взлетать, когда было получено это сообщение. Бомба не обнаружена, и полиция предполагает, что тревога была ложной.



### Митингом — по коррупции!




15 апреля свободные профсоюзы Беларуси и БНФ провели в Минске у Дома офицеров общественную акцию "Народ — против коррупции номенклатуры". На митинге прозвучали требования прекратить разбазаривание народной собственности, мобилизовать на борьбу с коррупцией всю силу закона.

Фото Сергея БРУШКО.

### А кто поможет нам?

**Высокую оценку итогам работы завершившейся токийской конференции по помощи России министров иностранных дел и финансов семи ведущих промышленно развитых держав дал директор-распорядитель Международного валютного фонда Мишель Камдессю.**

В распространенном в американской столице заявлении руководителя МВФ отмечается, что участники токийского форума смогли выработать важные меры поддержки российских реформ, и подчеркивается намерение фонда внести существенный вклад в оказание помощи Москве.

Павел ВАНИЧКИН.

### О, спорт, ты мир! Но нам впору идти по миру...

**В Раубичах прошел семинар спортивных журналистов, организованный Министерством информации и Госкомспортом Беларуси.**

Первоначальный замысел обсудить проблемы спортивной журналистики, похоже, лопнул, как мыльный пузырь. Точнее, проблемы были рассмотрены, но реальное их решение так и не вырисовалось. Как выйти на мировой информационный уровень? Откуда взять деньги на аккредитацию белорусских журналистов за рубежом для освещения важнейших спортивных событий, в том числе и Олимпийских игр в Лиллехаммере. Какую реальную помощь могут оказать Госкомспорт и НОК Беларуси пишущей братии? Думается, ответы именно на эти вопросы хотели услышать все присутствующие в первую очередь.

Алесь СИВЫЙ.

### Спорт-экспресс

В четвертьфинале международного турнира с призовым фондом 375 тысяч долларов, который проходил в американском городе Амелия-Айленд, Наталья Зверева из Минска крупно проиграла швейцарке Мануэле Малеевой-Франьер — 0:6, 3:6.

❑

Мужская сборная Беларуси по гандболу в рамках подготовки к первому матчу отборочного турнира чемпионата Европы со сборной Финляндии дважды сыграла в Каунасе со сборной Литвы и дважды одержала победу — 33:32 и 33:31.

### Во псих!

**В одной из психбольниц Москвы проведен опрос на тему о любимых телепередачах и газетах.**

Самая любимая программа, как оказалось, — "Красный квадрат". На втором месте — телесериалы. "Мою вторую маму" боготворят. На третьем месте — "Поле чудес". Душевнобольные очень любят "Политбюро", но почему-то дружно ненавидят Политковского. Любимые телеведущие: Любимов, Якубович и Киселев. Больше всего читают и любят "Известия". На всю больницу есть один человек, читающий "День", — остальные его ненавидят.

Дмитрий КОВАЛЬКОВ.

### Контрольную палату не купишь!

**Даже захудалый американский миллионер мог бы скупить коммунальную собственность Витебска "на корню".**

Примерно к такому выводу пришла областная инспекция Контрольной палаты Беларуси, изучив документы по приватизации городского имущества. Десятки торговых предприятий и зданий проданы коммерческим структурам по заниженным ценам. Решение об этом принималось келейно, без ведома общественности. В результате городская казна недосчиталась огромных сумм. Удастся ли восстановить справедливость? Ответ должен прозвучать на очередной сессии горсовета.

Сергей БУТКЕВИЧ.

Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты" агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, БелаПАН и РИД.

*Падзея дня*

## Лідэры сабраліся ў Мінску

Беларусь імкнецца да таго, каб прымусіць працаваць заключаныя раней у рамках СНД пагадненні па эканамічных пытаннях.

Аб гэтым заявіў журналістам 16 красавіка ў мінскім аэрапорце Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч, які сустракаў тут удзельнікаў нечарговай сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў—членаў СНД. Паводле слоў Станіслава Шушкевіча, калі будуць працаваць мытны саюз, банк і іншыя інстытуты, тады будзе працаваць і Садружнасць.

Каардынатар рабочай групы СНД Іван Каратчэня таксама адзначыў, што сустрэча выклікана неабходнасцю абмеркаваць эканамічную сітуацыю ў краінах Садружнасці. Ён праінфармаваў журналістаў, што спачатку сустрэнуцца толькі кіраўнікі дзяржаў, а затым — у складзе дэлегацый. Мяркуецца, што пасля заканчэння сустрэчы будуць падпісаны некаторыя дакументы.

❑

Прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў пасля прыбыцця ў беларускую сталіцу заявіў, што "варта канчаткова прыняць рашэнне тым, хто гатовы да інтэграцыі, даць магчымасць вызначыцца тым, хто вагаецца, і дапамагчы безбалюча адысці ад Садружнасці тым, хто не мае намеру ў ёй удзельнічаць... Неабходна зноў сабрацца праз месяц з тым, каб унесці канчатковую яснасць у будучае СНД".

Белінфарм—ТАСС.

Аб выніках мінскай сустрэчы лідэраў СНД "Народная газета" праінфармуе ў наступным нумары.

## ВЕЛІКОДНАЕ ПАСЛАННЕ мітрапаліта Мінскага і Слуцкага ФІЛАРЭТА, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, члена Свяшчэннага Сінода

*Вчера спогребохся Тебе Христе,*
*совосстаю днесь, воскресшу Тебе,*
*сраспинахся Тебе вчера,*
*Сам мя спрослави Спасе*
*во Царствии Твоем.*

*Канон Пасхі, спеў 3.*

Узлюбленыя ў Госпадзе Прэасвяшчэнныя архіпастыры, пастыры, багалюбныя інакі і інакіні і ўсе верныя чады Беларускай Праваслаўнай Царквы!

У гэты ўратавальны дзень Уваскрасення Хрыстовага я зноў звяртаюся да вас з дарагім для ўсіх нас Пасхальным прывітаннем:

**Хрыстос Уваскрэс!**

Ці ёсць іншыя словы, такія ж святыя і блізкія сэрцу праваслаўнага хрысціяніна, і ці ёсць іншая часіна ў годзе, калі б дасягалася такая мера хрысціянскага спадзявання на Вечнае жыццё, як не ў сённяшнюю светлую ноч, як не ў цяперашні дзень?!

Бо менавіта тут і цяпер "крест претерпевый, и смерть упразднивый, и воскресый из мертвых" Гасподзь наш Іісус Хрыстос перамяніў усе маркоты і смутак дольняга свету, калі Ён пасля Свайго паўстання з гроба прывітаў Сваіх вучняў адным толькі словам: "Радуйцеся!"

Бо менавіта тут і цяпер светла святкуем мы перамогу Жыцця над тленнем, памятаючы словы старажытнага прарока Асіі: "От власти ада Я искуплю их, от смерти избавлю их. Смерть! где твое жало? Ад! где твоя победа?" (Ас. 13, 14).

**"Хрыстос Уваскрэс!"** У гэтых словах заключана вялікае таемства нашага быцця, сэнс нашага зямнога вандроўніцтва; у іх — наша сіла для дастойнага перанясення ўсіх нягодаў і цяжару, на якія гэтак шчодрая рэчаіснасць; у іх — наша мужнасць прад спакусамі гэтага свету і крушэннямі нашых надзей.

І сапраўды, дарагія браты і сёстры! Да чаго яшчэ можам мы звярнуць нашы духоўныя вочы, калі не да Уваскрасення Хрыстовага? На што скіраваць нам свае думкі, на што яшчэ спадзявацца ў нядобрачасоўі маркотных будняў нашых, як не на Уваскрасенне Хрыстовае? Чым напоўніць сэрцы, што спусташаюцца нелюбоўю? — Адным толькі Уваскрэслым Хрыстом!

Узлюбленыя! У цяперашняе свята, калі "вся исполнишася света, небо же и земля и преисподняя", калі ўсё стварэнне святкуе паўстанне Хрыстовае, калі ўвесь хрысціянскі свет увассылае славу свайму Спасіцелю за дар Жыцця і Несмяротнасці, — я заклікаю вас, чады царкоўныя: адарыце чалавека — бліжняга свайго — увагай, клопатам, міласэрнымі адносінамі, ахвяруйце дзеля яго чым-небудзь дарагім у імя Хрыстовае. Тады радуйцеся, бо "Пасха наша, Христос, заклан за нас" (1 Кар. 5,7) і "в третий день по Писанием" дзівосна паўстаў з гроба. — **Хрыстос Уваскрэс!**

Сёння я звяртаюся да тых, хто пасля доўгіх блуканняў і пошукаў толькі нядаўна ступіў на пуцявіну, што вядзе да Гоcпада і Царквы Яго, якую не адолеюць і брамы пякельныя: Радуйцеся, бо вы ўжо на шляху да Таго, Хто Сам ёсць "Путь и Истина и Жизнь" (Ін. 14,6). — **Хрыстос Уваскрэс**!

Я звяртаюся да ўсіх, хто спатыкнуўся і ўпаў на няроўнай сцяжыне гэтага свету пад бярэмем марных турботаў, азлаблення або ганарліўства, да ўсіх, хто ў служэнні мамоне адышоў ад Бога Ісціннага: радуйцеся, бо ў вас не адабрана дараванне Таго, Хто Сам зведаў сіроцтва зямнога царства. Радуйцеся, згадваючы слова Іісуса, данесенае праз стагоддзі Евангелістам: "Приидите ко Мне, вси труждающиися и обремененнии, и Аз успокою вы. Возмите иго Мое на себе, и научитеся от Мене, яко кроток есмь и смирен сердцем, и обрящете покой душам вашым" (Мф. 11,28—29). — **Хрыстос Уваскрэс!**

Узлюбленыя! Яшчэ раз заклікаю вас не азмрочыць невыславёнай радасці сённяшняй урачыстасці затоенай крыўдай або раздражненнем на бліжняга, раўнадушшам і неспагадаю да лёсу абяздоленага, прадузятасцю, зласлоўем і гневам. Спраўдзім жа запавет Уваскрэслага: "Возлюби Господа Бога твоего всем сердцем твоим, и всею душею твоею, и всем разумением твоим: сия есть первая и наибольшая заповедь. Вторая же подобна ей: возлюби ближнего твоего, как самого себя" (Мф. 22, 37—39).

Але прызнаемся перад Богам і перад сабою: ці заўжды следуем мы гэтым словам Спасіцеля — і ці заўсёды з'яўляемся мы хрысціянамі ў поўным сэнсе гэтага слова: бо Іісус жа казаў: "О сем разумеют вси, яко Мои ученицы есте, аще любовь имате между собою" (Ін. 13, 35). Ці памятаем мы пра гэта, калі дзеяннем або бяздзейнасцю, вольна або нявольна патураем тым, хто сее варожасць, адчужэнне, рознасць?! Няхай не будзе гэтага паміж намі! Але ўзлюбім Узлюбіўшага нас Бога свайго і адзін аднаго! Даруем адзін аднаму зграшэнні і крыўды, як вучыў нас даруваць Гасподзь! Сувыскрэснем Яму верай, надзеяй і любоўю! І пакі ўзрадуемся, бо сёння збылося запаветнае спадзяванне Псалмапеўца, які ўсклікаў: "Да воскреснет Бог!"

**Хрыстос Уваскрэс!**

**Ісцінна Уваскрэс!**

**Філарэт, мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.**

Пасха Хрыстовая,
1993 г.,
*г. Мінск.*

*Крымінал*

## Смерць на... экспарт

Іван ГЕРАСЮК

**Войцэх разліў гарэлку з апошняй бутэлькі. За акном гасцініцы "Інтурыст" ужо запальваліся агні вячэрняга Брэста.**

**— Ну, што? За поспех нашай справы? — прапанаваў Збышак.**

**Расійскія госці ахвотна паднялі шклянкі. Выпіць, аднак, не паспелі. На парозе нечакана з'явіліся мужчыны ў цывільным.**

**— Служба бяспекі Рэспублікі Беларусь!**

... Некалькі супрацоўнікаў Арлоўскага філіяла Маскоўскага інстытута прыборабудавання спрабавалі прадаць 75 грамаў плутонію за 100 тысяч долараў, які ўкралі ў лабараторыі свайго ж інстытута і даставілі ў Брэст, каб затым пераправіць у Польшчу і далей. Масавым гандлем радыеактыўнымі рэчывамі ўжо ўсур'ёз заклапочаны ў Еўропе. Ядзерная смерць выпаўзае з Расіі і бескантрольна расплываецца па свеце.

Здавалася б, нас у Беларусі гэта не павінна асабліва турбаваць, бо мы не маем ні сваіх уранавых руднікоў, ні заводаў па вытворчасці радыеактыўных матэрыялаў. Аднак вельмі верагодна, што Беларусь можа ператварыцца ў перавалачную базу па экспарту смертаносных матэрыялаў на Захад.

У мінулым годзе супрацоўнікі Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі здолелі на самай граніцы "накрыць" злачынную групу і затрымаць амаль што 3 кілаграмы урану, які вось-вось павінен быў адправіцца ў Польшчу. Па складу гэта група міжнародная. Для мафіі нацыянальнага пытання не існуе.

Пакуль не адбыўся суд, мы не будзем называць прозвішчы абвінавачваемых. Не ў асобах справа.

"Важна прыцягнуць увагу грамадскасці і дзяржаўных органаў да гэтай новай праблемы і неадкладна вырашыць яе, інакш вынікі могуць быць непрадказальнымі", - лічыць следчы па асабліва важных справах пры Генеральным пракуроры Рэспублікі Беларусь Міхаіл Гардыка, які разблытваў клубок кантрабанды урану.

Клубок пачаў звівацца на Чапецкім механічным заводзе ва Удмурціі, дзе выпрацоўваюць ядзернае паліва, у маі мінулага года. Акрамя работнікаў прадпрыемства ў кантрабандзе прымалі ўдзел камерсанты іжэўскай фірмы "Экспарт", іх калега з Літвы і нават старшы лейтэнант мясцовай вайсковай часці МУС. За нейкія чатыры месяцы з ЧМЗ было вывезена не менш як 100 кілаграмаў урану-238. Некалі б мы жахаліся: як такое можа здарыцца на прадпрыемстве, агароджаным непралазнай сцяной, дзе на прахадной работнікаў толькі што не распранаюць? Чаму ніхто не заўважыў знікнення такой велізарнай колькасці ядзернага паліва, кожны грам якога павінен быць пад кантролем? Некалі б мы жахаліся. У сённяшняй Расіі, калі прадаецца ўсё і ўсюды, гэта зусім не дзіва.

І уран папоўз да заходняй граніцы. Першая партыя яго апынулася ў Брэсце. Праз некалькі дзён па той бок Буга, у кватэры жыхара Цярэспаля Збігнева Тымінскага пачуўся тэлефонны званок:

— Тавар прыбыў.

Тымінскі быў толькі невялікім стрэлачнікам у доўгім мафіёзным ланцугу. Ён паведаміў навіну ў Варшаву. Праз некалькі дзён заходні лімузін спыніўся ля явачнай кватэры ў Брэсце. Пакупнікі спецыяльным прыборам вызначылі вартасць урану-238 і адразу ж адправіліся назад.

Метад беспярашкоднага перасячэння граніцы, відаць, быў распрацаваны дасканала. Ля граніцы сакваяж з уранам чакалі яшчэ два аўтамабілі. У якім з іх знік "тавар", Збігнеў так і не заўважыў. Атрымаў яго ўжо на сваёй тэрыторыі.

Тое, што Тымінскі быў простай пешкай у вялікай гульні, пацвярджае яго недасведчанасць у небяспецы грузу. Два з паловай кілаграмы урану былі загорнуты ў звычайную фальгу. Працяглы час Збігнеў хаваў смертаноснае рэчыва ў падсобцы з вугалем, а пасля ў хляве. Трэба зазначыць, што нябачныя промні працінала акружаючых на ўсім шляху ад Удмурціі да Польшчы. Уласнае жыццё і жыццё людзей побач камерсанты ад радыяцыі цанілі менш за папяровыя долары.

Металічныя цыліндрыкі вандравалі па Польшчы ад чэшскай да нямецкай граніцы, і частку іх так яшчэ і не адшукалі. Але гэта ўжо праблемы не нашы. Нашы ж службы здолелі перахапіць ужо наступную партыю кантрабанды і перакрыць злачынны радыеактыўны ручай. Праблема, аднак, застаецца. Бо Беларусь па-ранейшаму з'яўляецца адносна вольным калідорам на Захад для ўсіх расіян і тых, хто блукае па яе тэрыторыі ў пошуках лепшага жыцця.

Я не заклікаю ўзводзіць загарадзі з калючага дроту, але кантраляваць уезд і знаходжанне на тэрыторыі рэспублікі іншаземных грамадзян мы проста абавязаны. Ні для каго не сакрэт, што тыя ж гандляры наркотыкамі з Азіі без праблем набываюць на тэрыторыі Расіі фальшывыя пашпарты і атрымліваюць фальшывыя візы. Органы ўнутраных спраў Беларусі павінны ведаць, хто прыязджае да нас і з якой мэтай. Ужо не кажу пра матэрыяльныя выгоды для рэспублікі ад увядзення платы за ўязныя і транзітныя візы. У некаторых краінах гэтай платы хапае нават на ўтрыманне арміі.

Пракуратура рэспублікі накіравала ў Савет Міністраў шэраг прапаноў па паляпшэнню матэрыяльнага забеспячэння пагранічных службаў, па ўнясенню змен у існуючае заканадаўства. Яны, напэўна, разглядаюцца дзесьці ва ўрадавых кабінетах. А можа, і не разглядаюцца. Ва ўсялякім разе, на кантрабандным беларускім фронце ўсё яшчэ без перамен.

У сувязі з выхаднымі і святочным днём наступны нумар "Народнай газеты" выйдзе ў свет 21 красавіка 1993 г.

*Усё па-старому?*

## Ах, Астап Ібрагімавіч!

Дзеянне нечарговай 11-й сесіі Вярхоўнага Савета разгортвалася нечакана досыць драматычна для ўрадавай наменклатуры. Відаць, стопрацэнтнай упэўненасці ў перамозе змовы і прыняцця дагавора аб калектыўнай бяспецы не было. Тады 30 сакавіка ціха і без лішняга агалошання Савет Міністраў прымае пастанову N 185, якая зацвердзіла палажэнне... аб чым бы вы думалі? — аб пенсіі "за асобыя заслугі перад Рэспублікай Беларусь" (гл. газету "Рэспубліка", 1993, 10.04). У "асоба заслужаныя", акрамя розных герояў "соцтруда", узнагароджаных савецкімі ордэнамі, лаўрэатаў і г.д. уключаны, між іншым, "народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь, выбраныя пачынаючы з 12-га склікання Вярхоўнага Савета, члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, члены ўрада, старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі, праўлення Белкаапсаюза, Вярхоўнага суда, Вышэйшага гаспадарчага суда, Кантрольнай палаты, Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, генеральныя пракуроры, начальнікі Сакратарыята Вярхоўнага Савета (надта ж важная шышка! — **З.П.**), старшыні аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама".

Гэтым асобам пенсія "за асобыя заслугі" ўстанаўліваецца ў памеры пенсіі па ўзросту ці інваліднасці **з павышэннем яе на 100—200 працэнтаў** мінімальнага памеру пенсіі па ўзросту (г.зн. у 2—3 разы). Акрамя таго, членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета, ураду і ўсім чыноўным пасадам, пералічаным у папярэднім абзацы, пенсія будзе налічвацца мужчынам з 55 гадоў, жанчынам — з 50 гадоў у памеры 85 працэнтаў пенсіі па ўзросту. Маладзейшым за гэты ўзрост (55 і 50 гадоў) выплачваецца 50 працэнтаў пенсіі па ўзросту, калі ў мужчын працоўны стаж 25 гадоў, а ў жанчын — 20 гадоў.

Істотна таксама, што "пенсіі за асобыя заслугі перад Рэспублікай Беларусь (хоць бы той чынуша яе тройчы прадаваў і сто разоў абкраў) **выплачваюцца працуючым пенсіянерам у поўным памеры незалежна ад атрыманага імі заробку (даходу)**".

Нядрэнна прыдумалі, праўда? Лепш нават, чым былыя савецкія персанальныя пенсіі наменклатурным таварышам. Ах, Астап Ібрагімавіч! Ах, шалунішкі! Ну, даюць "рэбята"! І "дзяпутатаў" уставілі. А мы тут думалі, змагаліся з прывілеямі, адмянялі, забаранялі, і вось на табе — ізноў за сваё! Няхораша.

Толькі, відаць, самі сябе рашылі на мякіне купіць, спадары камбінатары. Не можа такія пастановы прымаць Савет Міністраў. Гэта прэрагатыва Вярхоўнага Савета, які, дарэчы, даўно прыняў Закон аб пенсіях, дзе ніякаму начальству ніякіх прывілеяў не прадугледжана.

Охо-хо-хо, панове. Як кажуць, "марната марнаты і ўсялякая марната". Да сустрэчы на чарговай 12-й сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, калегі.

З павагай —

**Зянон ПАЗЬНЯК, народны дэпутат Беларусі.**

*Официально*

## Дорогая ты наша "корзинка"...

Как сообщил Государственный комитет Республики Беларусь по статистике и анализу, в марте 1993 года по сравнению с февралем 1993 года индекс цен на продовольственные и непродовольственные товары и услуги, включенные в "потребительскую корзину", составил 127,7 процента.

В марте 1993 года по сравнению с декабрем 1992 года стоимость включенных в минимальную "потребительскую корзину" товаров и услуг возросла на 92,4 процента.

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

*Па вашай просьбе*

Галоўнаму рэдактару "Народнай газеты" сп. І.П.СЯРЭДЗІЧУ

Паважаны сп. галоўны рэдактар!

Завяршыла работу нечарговая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Просім "Народную газету" надрукаваць вынікі пайменнага галасавання па пункту 4 пастановы аб даручэнні С.С.Шушкевічу падпісаць Дагавор аб калектыўнай бяспецы.

Народныя дэпутаты Беларусі: Л.Баршчэўскі, Ю.Беленькі, В.Голубеў, Л.Дзейка, У.Заблоцкі, Л.Зданевіч, А.Шут, Л.Звераў, С.Бабачонак, В.Малашка, П.Холад, С.Папкоў, С.Навумчык, Г.Сямдзянава, З.Пазьняк.

**АД РЭДАКЦЫІ.**

**Азнаёміць выбаршчыкаў з вынікамі галасавання па такому сур'ёзнаму і важнаму пытанню, як падпісанне Дагавора аб калектыўнай бяспецы, патрабуюць і многія чытачы "Народнай газеты". Што ж, ніякіх сакрэтаў тут няма. Вось дакумент, які сведчыць аб пазіцыі кожнага народнага дэпутата.**

# Пратакол пайменнага галасавання

## ад 9 красавіка 1993 года па 4-му пункту пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб дакладзе Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Шушкевіча С.С. аб становішчы рэспублікі і аб важных пытаннях яе ўнутрыпалітычнай і знешнепалітычнай дзейнасці".

**Фармулёўка пункта: "Пацвярджаючы імкненне Рэспублікі Беларусь да набыцця статуса нейтральнай дзяржавы, замацаванае ў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, даручыць Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.С.Шушкевічу падпісаць Дагавор аб калектыўнай бяспецы, які заключаны 15 мая 1992 года ў горадзе Ташкенце, з заявай аб адпаведных агаворках.**

**Прэзідыуму Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь падрыхтаваць агаворкі, якія выключаюць, у прыватнасці, прымяненне Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь на тэрыторыі іншых дзяржаў, размяшчэнне і прымяненне ўзброеных сіл іншых дзяржаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь без рашэння Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, і ўнесці іх для разгляду пры ратыфікацыі Дагавора аб калектыўнай бяспецы".**

| | № выбарчай акругі | Хто як галасаваў |
|---|---|---|
| Абухоў Аляксандр Іванавіч | 234 | за |
| Авечкін Аляксандр Пятровіч | | за |
| Авін Іван Іванавіч | 152 | за |
| Аксаміт Мікалай Уладзіміравіч | 248 | не галасаваў |
| Аламніеў Віктар Пятровіч | 134 | супраць |
| Алешчанка Міхаіл Пятровіч | 297 | за |
| Андрэенка Уладзімір Аляксандравіч | 213 | за |
| Андрэйчанка Уладзімір Паўлавіч | 144 | за |
| Анісенка Таццяна Міхайлаўна | | за |
| Антоненка Мікалай Ільіч | | за |
| Антончык Сяргей Антонавіч | 017 | не галасаваў |
| Апацкі Аляксандр Мікалаевіч | 064 | устрымаўся |
| Арцыменя Дзмітрый Канстанцінавіч | 264 | за |
| Аўчыннік Уладзімір Мітрафанавіч | | адсутнічаў |
| Бамбіза Іван Міхайлавіч | 228 | за |
| Бараноўскі Валерыян Уладзіміравіч | 196 | за |
| Бардоўскі Міхаіл Рыгоравіч | | за |
| Барсукоў Сталій Якаўлевіч | | за |
| Бядулін Яўген Макаравіч | 102 | не галасаваў |
| Беленькі Юрый Адамавіч | 036 | не галасаваў |
| Белы Аляксандр Леанідавіч | 252 | за |
| Бярдаўцаў Сяргей Вадзімавіч | 173 | не галасаваў |
| Бабарыкіна Ганна Іванаўна | | за |
| Бабачонак Станіслаў Ульянавіч | 277 | супраць |
| Багаўцоў Эдуард Аляксандравіч | 289 | супраць |
| Бойка Мікалай Іванавіч | 001 | за |
| Балоцін Міхаіл Андрэевіч | 239 | за |
| Борыс Васіль Іванавіч | 138 | за |
| Барысенка Анатоль Яўгенавіч | | супраць |
| Боршч Аляксей Афанасьевіч | 244 | за |
| Баршчэўскі Леанід Пятровіч | 174 | не галасаваў |
| Бачароў Яўген Міхайлавіч | 179 | за |
| Бродскі Іван Сяргеевіч | 093 | не галасаваў |
| Бубневіч Сяргей Дзмітрыевіч | 058 | адсутнічаў |
| Булахаў Дзмітрый Пятровіч | 275 | не галасаваў |
| Бурачкоў Валянцін Фёдаравіч | 281 | за |
| Васілеўскі Міхаіл Уладзіміравіч | 163 | за |
| Васільеў Васіль Іванавіч | 257 | за |
| Вахрамееў Кірыла Варфаламеевіч | 047 | устрымаўся |
| Вашкевіч Іосіф Фёдаравіч | 012 | за |
| Вялічка Валянцін Уладзіміравіч | 215 | за |
| Вярцінскі Аляксандр Эдмундавіч | 269 | за |
| Вярцінскі Анатоль Ільіч | 005 | супраць |
| Веславухаў Міхаіл Мікалаевіч | 154 | за |
| Вячэрскі Рыгор Арсеньевіч | 054 | супраць |
| Вайцянкоў Мікалай Рыгоравіч | 212 | адсутнічаў |
| Вайцешык Анатоль Міхайлавіч | 130 | за |
| Волкаў Анатоль Ягоравіч | 132 | не галасаваў |
| Валчэцкі Уладзімір Вячаслававіч | 096 | устрымаўся |
| Верабей Уладзімір Сцяпанавіч | 211 | за |
| Гаркун Уладзімір Гіляравіч | 060 | за |
| Гацко Адам Іванавіч | 290 | не галасаваў |
| Герасіменка Аляксандр Міхайлавіч | 025 | за |
| Герасімаў Уладзімір Сяргеевіч | 208 | за |
| Герасюк Іван Мікалаевіч | 063 | не галасаваў |
| Гермянчук Ігар Іванавіч | 071 | не галасаваў |
| Гетц Барыс Гаўрылавіч | | за |
| Гілевіч Ніл Сямёнавіч | 077 | супраць |
| Глушкевіч Яўген Міхайлавіч | 168 | не галасаваў |
| Голубеў Валянцін Фёдаравіч | 015 | не галасаваў |
| Галубовіч Вольга Мікалаеўна | 024 | супраць |
| Ганчар Віктар Іосіфавіч | 006 | не галасаваў |
| Гарэлік Мікалай Мікалаевіч | 083 | адсутнічаў |
| Грыб Мечыслаў Іванавіч | 178 | за |
| Грыбанаў Уладзімір Міхайлавіч | 007 | супраць |
| Грынёў Мікалай Фёдаравіч | 305 | за |
| Грушавы Генадзь Уладзіміравіч | 041 | не галасаваў |
| Гушаль Мікалай Рыгоравіч | 200 | за |
| Гюнтэр Барыс Давідавіч | 190 | не галасаваў |
| Давідовіч Сяргей Фёдаравіч | 043 | за |
| Даўлюд Аляксей Уладзіміравіч | 256 | не галасаваў |
| Данілевіч Іван Мікалаевіч | 114 | за |
| Даніленка Віктар Дзмітрыевіч | 308 | адсутнічаў |
| Дваранiновіч Васіль Васільевіч | 136 | за |
| Дзегцяроў Станіслаў Рыгоравіч | | за |
| Дзейка Леанід Іванавіч | 062 | супраць |
| Дзямянцей Мікалай Іванавіч | 162 | за |
| Дземідзенка Валерый Аляксандравіч | 191 | за |
| Дзічкоўскі Аляксандр Аляксандравіч | 107 | устрымаўся |
| Даўгалёў Васіль Барысавіч | 229 | не галасаваў |
| Даўжанкоў Уладзімір Сідаравіч | 282 | за |
| Дамашкевіч Мікалай Фёдаравіч | 160 | за |
| Даменікан Мікалай Уладзіміравіч | 113 | за |
| Драган Пётр Стэфанавіч | 131 | не галасаваў |
| Дражын Уладзімір Несцеравіч | 080 | за |
| Драбышэўская Інеса Міхайлаўна | 193 | супраць |
| Драбышэўскі Пётр Іванавіч | 294 | за |
| Дубоўскі Анатоль Ігнатавіч | | за |
| Ермалаеў Валерый Сямёнавіч | 167 | устрымаўся |
| Жэбрак Міхаіл Вікенцьевіч | 249 | за |
| Жыдзіляеў Іван Іванавіч | 169 | за |
| Жук Анатоль Міхайлавіч | 049 | за |
| Жуковіч Яўген Барысавіч | | за |
| Жукоўскі Міхаіл Дзмітрыевіч | | за |
| Жураўлёў Мікалай Іванавіч | | за |
| Заблоцкі Уладзімір Мікалаевіч | 035 | не галасаваў |
| Завадскі Вікенцій Браніслававіч | 069 | за |
| Зайцаў Мікалай Фядотавіч | | за |
| Зарэцкі Сцяпан Рыгоравіч | 235 | за |
| Захарэнка Уладзімір Васільевіч | 182 | устрымаўся |
| Звераў Леанід Аляксандравіч | 276 | супраць |
| Зданевіч Лявонцій Ульянавіч | 039 | не галасаваў |
| Зяленін Валерый Іванавіч | 124 | устрымаўся |
| Іваноў Вадзім Міхайлавіч | | устрымаўся |
| Івашкевіч Мар'ян Зеліслававіч | 079 | устрымаўся |
| Ізвалава Надзея Якаўлеўна | | за |
| Казючыц Міхаіл Адамавіч | 302 | за |
| Какоўка Віктар Фёдаравіч | 176 | супраць |
| Калмычкоў Іван Фёдаравіч | 251 | адсутнічаў |
| Камай Аляксей Сцяпанавіч | 214 | за |
| Карпенка Генадзь Дзмітрыевіч | 075 | не галасаваў |
| Карпаў Аляксей Аляксеевіч | 284 | за |

| | № выбарчай акругі | Хто як галасаваў |
|---|---|---|
| Катушкін Пётр Міхайлавіч | 303 | за |
| Качан Міхаіл Арцем'евіч | | за |
| Кебіч Вячаслаў Францавіч | 120 | за |
| Кічкайла Аляксандр Трафімавіч | 285 | за |
| Кавалёў Альберт Андрэевіч | 210 | не галасаваў |
| Кавалёнак Уладзімір Васільевіч | 065 | адсутнічаў |
| Коваль Мікалай Мікалаевіч | | за |
| Козік Леанід Пятровіч | 053 | устрымаўся |
| Казлоў Генадзь Іванавіч | 026 | за |
| Казяк Вінцэнты Іванавіч | 272 | за |
| Какарэка Георгій Георгіевіч | 170 | за |
| Калбаска Мікалай Ігнатавіч | | не галасаваў |
| Калодка Аляксандр Сцяпанавіч | 268 | адсутнічаў |
| Комар Міхаіл Антонавіч | 230 | за |
| Канавалаў Уладзімір Яфімавіч | 306 | за |
| Канапля Яўген Фёдаравіч | 031 | устрымаўся |
| Канцэвіч Аляксей Сямёнавіч | 195 | супраць |
| Канюшык Мікалай Максімавіч | 129 | не галасаваў |
| Копач Міхаіл Аркадзьевіч | | не галасаваў |
| Капытоў Мікалай Ермалаевіч | 274 | за |
| Карніевіч Мікалай Фаміч | 076 | за |
| Каратчэня Іван Міхайлавіч | 057 | устрымаўся |
| Караўка Аляксандр Анатольевіч | | супраць |
| Котаў Сяргей Міхайлавіч | 243 | за |
| Крывецкі Мікалай Анатольевіч | 126 | за |
| Крышталевіч Ульяна Феакцістаўна | | за |
| Крупнік Зоя Уладзіміраўна | | адсутнічала |
| Крыжаноўскі Мікалай Кірылавіч | 086 | супраць |
| Кудлаш Уладзімір Уладзіміравіч | 161 | за |
| Кудравец Віктар Міхайлавіч | 237 | за |
| Кузмянкоў Аляксандр Яўсеевіч | 156 | за |
| Кузняцоў Вячаслаў Мікалаевіч | 034 | за |
| Кузьма Анатоль Фаміч | 266 | супраць |
| Кузюк Генадзь Уладзіміравіч | 250 | за |
| Кулажанка Аляксей Мікалаевіч | | за |
| Кулакоў Уладзімір Панцялеевіч | 153 | за |
| Кулічкоў Аляксандр Мікалаевіч | 286 | за |
| Курбаеў Уладзімір Дурдыевіч | 236 | не галасаваў |
| Курдзюкоў Валерый Мікалаевіч | 258 | не галасаваў |
| Кучынскі Віктар Францавіч | 125 | не галасаваў |
| Лавіцкі Генадзь Міхайлавіч | 166 | за |
| Лазарэвіч Уладзімір Уладзіміравіч | 226 | адсутнічаў |
| Лазебнік Віктар Міхайлавіч | | за |
| Лакцюшын Мікалай Іванавіч | | за |
| Лапавухаў Іван Кандрацьевіч | 143 | супраць |
| Лябедзька Анатоль Уладзіміравіч | 265 | адсутнічаў |
| Леўчык Уладзімір Канстанцінавіч | 233 | за |
| Лявонаў Васіль Севасцьянавіч | 299 | адсутнічаў |
| Летка Аляксандр Аляксандравіч | 254 | адсутнічаў |
| Літвінаў Віктар Кузьміч | 103 | адсутнічаў |
| Лобач Мікалай Іванавіч | 050 | не галасаваў |
| Лабко Мікалай Мікалаевіч | 110 | устрымаўся |
| Ломаць Зянон Кузьміч | 085 | за |
| Лужынскі Станіслаў Антонавіч | 059 | за |
| Лукашоў Аляксандр Васільевіч | 097 | не галасаваў |
| Лукашэнка Аляксандр Рыгоравіч | 310 | за |
| Любавіцкі Вячаслаў Віктаравіч | 184 | за |
| Макарэвіч Іосіф Адамавіч | 082 | устрымаўся |
| Макейчанка Барыс Андрэевіч | 068 | за |
| Малахоўскі Аляксандр Канстанцінавіч | 217 | адсутнічаў |
| Малашка Віталь Аляксеевіч | 030 | не галасаваў |
| Малышаў Уладзімір Мікалаевіч | 219 | за |
| Мамчыц Аляксандр Іванавіч | 296 | за |
| Марыніч Міхаіл Афанасьевіч | 023 | за |
| Маркевіч Мікалай Мікалаевіч | 241 | не галасаваў |
| Маркоўскі Мікалай Мартынавіч | 222 | за |
| Мартос Канстанцін Вікенцьевіч | 108 | устрымаўся |
| Мацюшэўскі Валерый Пятровіч | 070 | за |
| Мацюшонак Міхаіл Емяльянавіч | 298 | супраць |
| Мацкевіч Мікалай Уладзіслававіч | | адсутнічаў |
| Мачуленка Міхаіл Арцёмавіч | 207 | за |
| Мядзведзеў Андрэй Васільевіч | 09 | адсутнічаў |
| Мінчанка Пётр Захаравіч | | за |
| Мінько Франц Францавіч | 094 | за |
| Міцько Пётр Антонавіч | 088 | супраць |
| Маісееў Генадзь Фёдаравіч | 175 | не галасаваў |
| Мардашоў Анатоль Андрэевіч | 145 | за |
| Марозаў Васіль Фёдаравіч | | за |
| Машко Іван Рыгоравіч | 259 | за |
| Мядзелец Вадзім Андрэевіч | 164 | за |
| Мяць Баляслаў Станіслававіч | 255 | за |
| Навумчык Сяргей Іосіфавіч | 181 | не галасаваў |
| Някрасаў Ігар Яўгенавіч | | за |
| Нялюбін Ігар Аляксандравіч | 202 | за |
| Нятылькін Анатоль Іванавіч | | за |
| Нікіцін Генадзь Іванавіч | 055 | не галасаваў |
| Ніканчук Аляксей Сямёнавіч | 117 | устрымаўся |
| Новік Уладзімір Уладзіміравіч | 018 | супраць |
| Новікаў Анатоль Мікалаевіч | | за |
| Новікаў Уладзімір Мяфодзьевіч | 150 | за |
| Новікаў Яўген Віктаравіч | 013 | не галасаваў |
| Образаў Аляксандр Іванавіч | 177 | адсутнічаў |
| Паўлаў Валерый Уладзіміравіч | 032 | за |
| Паўлоўскі Аляксандр Іванавіч | 246 | за |
| Палагеча Ігар Іванавіч | 271 | за |
| Паруль Аляксандр Уладзіміравіч | 172 | не галасаваў |
| Парфянюк Яўген Сцяпанавіч | 104 | адсутнічаў |
| Пахілка Яўген Палікарпавіч | 287 | не галасаваў |
| Пянькова Зінаіда Васільеўна | 280 | за |
| Пісарэвіч Сцяпан Канстанцінавіч | 123 | за |
| Піскароў Віктар Аляксеевіч | 072 | за |
| Піскуноў Анатоль Ігнатавіч | | за |
| Піцуха Валерый Іванавіч | 140 | за |
| Плоцкі Раман Эдуардавіч | 261 | устрымаўся |
| Пазьняк Зянон Станіслававіч | 009 | не галасаваў |
| Пазюмка Аляксандр Раманавіч | 292 | за |
| Папкоў Сяргей Пятровіч | 021 | не галасаваў |
| Папоў Павел Аляксеевіч | | за |
| Папоў Юрый Мікалаевіч | 073 | за |
| Пахалок Мікалай Аляксандравіч | 245 | за |
| Прывалаў Леанід Пятровіч | 240 | за |
| Пракопаў Аляксандр Міхайлавіч | 201 | за |

| | № выбарчай акругі | Хто як галасаваў |
|---|---|---|
| Пракаповіч Пётр Пятровіч | 122 | за |
| Протас Анатоль Несцеравіч | 220 | не галасаваў |
| Пырх Ігар Іванавіч | 197 | адсутнічаў |
| Радзецкі Яўген Іванавіч | 148 | за |
| Радкевіч Леанід Іванавіч | 042 | устрымаўся |
| Радамысльскі Віктар Аляксандравіч | 155 | не галасаваў |
| Рахатка Казімір Уладзіслававіч | 260 | за |
| Русак Віктар Леанідавіч | 048 | адсутнічаў |
| Русакевіч Уладзімір Васільевіч | 116 | устрымаўся |
| Руцкі Дзмітрый Дзмітрыевіч | 135 | за |
| Савіцкі Барыс Парфёнавіч | 187 | супраць |
| Садоўскі Пётр Вікенцьевіч | 046 | адсутнічаў |
| Саенка Аляксей Пятровіч | 141 | за |
| Саковіч Васіль Андрэевіч | 149 | адсутнічаў |
| Самойленка Віктар Рыгоравіч | 159 | адсутнічаў |
| Самошчаў Уладзімір Васільевіч | 293 | за |
| Самусевіч Раіса Мікалаеўна | 304 | за |
| Сапранецкі Мікалай Кірылавіч | 301 | за |
| Сапронаў Уладзімір Аляксандравіч | 089 | адсутнічаў |
| Селівончык Яўген Сцяпанавіч | 011 | за |
| Сямашка Іван Іванавіч | 137 | супраць |
| Сямдзянава Галіна Георгіеўна | 262 | не галасавала |
| Сярдзюк Валерый Канстанцінавіч | 194 | не галасаваў |
| Серада Мікалай Міхайлавіч | 224 | адсутнічаў |
| Сярэдзіч Іосіф Паўлавіч | 133 | супраць |
| Сечка Леанід Ніканоравіч | 198 | супраць |
| Сівіцкі Герард Уладзіслававіч | 118 | за |
| Сівіцкі Дзмітрый Аляксандравіч | 278 | за |
| Сіўчыкаў Анатоль Андрэевіч | 142 | за |
| Сініцын Леанід Георгіевіч | 279 | не галасаваў |
| Сінчылін Васіль Ільіч | | за |
| Скарабагацька Пётр Андрэевіч | 128 | за |
| Скарынін Мікалай Паўлавіч | 022 | за |
| Скрыцкі Уладзімір Фёдаравіч | | за |
| Слабчанка Сяргей Іванавіч | 111 | супраць |
| Слямнёў Міхаіл Аляксандравіч | 183 | не галасаваў |
| Слесар Уладзімір Міхайлавіч | 199 | за |
| Слабада Аляксандр Іванавіч | | за |
| Смоляр Іван Мікалаевіч | 218 | за |
| Сакалоў Анатоль Дзмітрыевіч | 052 | за |
| Салдатаў Мікалай Мікалаевіч | 247 | за |
| Салдатава Ніна Ільінічна | | устрымалася |
| Сарокін Валянцін Інакенцьевіч | | за |
| Сасноў Аляксандр Віктаравіч | 189 | супраць |
| Сасноўскі Міхаіл Барысавіч | | адсутнічаў |
| Спіглазаў Аляксандр Фёдаравіч | 119 | не галасаваў |
| Станкевіч Уладзімір Міхайлавіч | 078 | устрымаўся |
| Сцепаненка Аляксей Мікалаевіч | 209 | за |
| Сцепаненка Мікалай Іванавіч | 185 | за |
| Студзянцоў Уладзімір Міхайлавіч | 004 | за |
| Судас Мікалай Міхайлавіч | 223 | за |
| Сукач Міхаіл Данілавіч | 216 | адсутнічаў |
| Сумар Канстанцін Андрэевіч | 106 | за |
| Сушкевіч Баляслаў Іосіфавіч | 109 | устрымаўся |
| Тарасенка Леанід Рыгоравіч | 019 | адсутнічаў |
| Торманаў Фёдар Мікалаевіч | 225 | за |
| Толсцік Мікалай Афанасьевіч | | за |
| Траццякоў Аляксандр Аляксандравіч | | за |
| Трафіменка Васіль Сяргеевіч | 146 | устрымаўся |
| Трусаў Іван Іванавіч | 051 | за |
| Трусаў Алег Анатольевіч | 033 | не галасаваў |
| Трухан Канстанцін Пятровіч | 081 | за |
| Турок Анатоль Мікалаевіч | 227 | не галасаваў |
| Удовікаў Міхаіл Дзмітрыевіч | 098 | адсутнічаў |
| Уласенка Віктар Сямёнавіч | 074 | супраць |
| Унучка Раман Іосіфавіч | 263 | за |
| Уранюк Уладзімір Яўгенавіч | 101 | за |
| Усціновіч Алена Мікалаеўна | | за |
| Фарфель Міхаіл Абрамавіч | 091 | адсутнічаў |
| Федарэнка Віктар Мікалаевіч | 099 | за |
| Федарчук Мікалай Аляксеевіч | 180 | за |
| Флар'яновіч Аляксей Аляксеевіч | 121 | адсутнічаў |
| Фрэйберг Андрэй Пятровіч | 253 | за |
| Хвошч Уладзімір Іванавіч | | супраць |
| Хейдараў Юрый Пятровіч | 288 | за |
| Хітрык Уладзімір Макаравіч | | устрымаўся |
| Холад Павел Ігнацьевіч | 067 | супраць |
| Халшчэўнікаў Якаў Іванавіч | 205 | за |
| Хацяшоў Эрнст Нікіфаравіч | 045 | адсутнічаў |
| Цесавец Міхаіл Міхайлавіч | 040 | устрымаўся |
| Ціткоў Станіслаў Пятровіч | 291 | за |
| Цітоў Іван Віктаравіч | 127 | за |
| Ціцянкоў Іван Іванавіч | 300 | за |
| Ціханаў Іван Аляксандравіч | | адсутнічаў |
| Ціхіня Валерый Гур'евіч | 232 | адсутнічаў |
| Цішкевіч Альфонс Ільіч | 095 | за |
| Цялежнікаў Уладзімір Іванавіч | 171 | за |
| Цярэшка Іван Іванавіч | 151 | за |
| Цумараў Яўген Аляксандравіч | 010 | не галасаваў |
| Чаванькоў Яўген Іванавіч | 204 | устрымаўся |
| Чакушоў Уладзімір Міхайлавіч | 061 | за |
| Чэпік Васіль Васільевіч | 158 | за |
| Чарныш Уладзімір Рыгоравіч | 100 | за |
| Чэх Георгій Данілавіч | 139 | за |
| Чырун Віктар Іванавіч | 186 | за |
| Чувічка Уладзімір Васільевіч | | за |
| Чура Леанід Максімавіч | 283 | за |
| Шакаў Міхаіл Логвінавіч | 273 | за |
| Шаладонаў Васіль Іванавіч | 206 | за |
| Шарко Мікалай Філіпавіч | | за |
| Шачак Васіль Міхайлавіч | 084 | не галасаваў |
| Шаўнін Аляксей Мікалаевіч | 267 | за |
| Шаўцоў Уладзімір Міхайлавіч | 221 | супраць |
| Шкапіч Павел Паўлавіч | 092 | супраць |
| Шкурко Валянцін Пятровіч | 203 | за |
| Штокін Аляксандр Мікалаевіч | 165 | устрымаўся |
| Шукшын Валерый Сцяпанавіч | | за |
| Шут Аляксандр Аляксандравіч | 066 | не галасаваў |
| Шушкевіч Станіслаў Станіслававіч | 044 | супраць |
| Шыдлавец Аляксандр Мікалаевіч | 192 | адсутнічаў |
| Шылько Баляслаў Піусавіч | 157 | за |
| Шымчук Яўген Пятровіч | 115 | устрымаўся |
| Шыпко Аляксандр Яўгенавіч | 147 | не галасаваў |
| Шэйман Віктар Уладзіміравіч | 105 | за |
| Юркевіч Мікалай Аляксандравіч | 242 | адсутнічаў |
| Якабсон Аляксандр Серафімавіч | 231 | за |
| Якубец Мікалай Захаравіч | 112 | устрымаўся |
| Якубоўскі Міхаіл Іванавіч | 056 | супраць |
| Янец Анатоль Анатольевіч | 270 | за |
| Яскевіч Генрых Сямёнавіч | 295 | адсутнічаў |
| Ястраб Валянціна Аркадзьеўна | 090 | устрымалася. |

*Дожили!*

## Профессура клацает зубами

**Вот уже две недели, как в корпусах Центрального научно-исследовательского института механизации и электрификации сельского хозяйства в Минске отключили отопление, которое "тянет", говорят, более чем на 300 тысяч рублей в день.**

В год, при этих-то ценах, если прикинуть, — миллионов на тридцать — сорок. Это едва ли не половина того, что выделяет государство институту на разработку новых сельскохозяйственных машин.

На испытание холодом коллектив пошел по собственной воле. Ученые считают, что и в этих экстремальных условиях — во время недавнего похолодания в кабинетах и лабораториях замерзала вода в стаканах — они должны выполнять свой долг. Что считает государство, бросившее на произвол судьбы, точнее, погоды, людей, работа которых определяет наш завтрашний урожай, а значит, быть нам сытыми или по-прежнему полуголодными, — неизвестно.

**Владимир БОРИСОВ.**

*Вопрос по существу*

## Когда же откроем кремневый "ларчик"?

"Кто не опережает жизнь в научных идеях — рискует отстать во всем". Эти слова известного белорусского академика В.С.Комарова вспоминаю всякий раз, когда речь идет о явлении активации воды природным минеральным образованием — кремнем. Свойства этой воды открыли более десяти лет назад. Кремня у нас хватает. Мартовское совещание в Белорусской государственной политехнической академии показало, что если ученые и производственники объединятся, то кремень откроет людям много тайн и принесет немало пользы.

**22 апреля в 10 часов** в помещении межотраслевого института повышения квалификации кадров по новым направлениям развития техники и технологии при БГПА **(220707, г.Минск, Партизанский проспект, 77)** начнет работу семинар по кремню. Подробности по телефонам: 45-76-58 и 46-47-57. И милости просим к нам на семинар.

**Леонид БОГИНСКИЙ, профессор.**

*И такое бывает...*

## Воры — крадут, предприниматели — дарят...

На складе иностранной фирмы "Мара" в Бресте снова побывали гости. Но в отличие от "героев" заметки "Кто „съел" четыре "лимона?" ("Народная газета", 13 марта 1993 г.) сюда их попросил прийти учредитель фирмы г-н Рольф Шмидтбауэр. Он пригласил представителей местной благотворительной организации, чтобы передать гуманитарную помощь воспитанникам детского дома, инвалидам, малоимущим семьям.

Как видим, визит непрошенных гостей, похитивших недавно со склада товаров на четыре миллиона рублей, не озлобил немецкого инвестора — он и дальше готов помогать белорусам. Помогут ли они фирме? Несмотря на обещанный полумиллионный гонорар за поимку воров, как брестчане, так и местная милиция пока хранят молчание...

**Алексей РУХОВ.**

*Нам стало известно*

## Завалим всю Европу нашими лифтами!

**Первую партию грузовых лифтов выпустили на Могилевском лифтостроительном заводе.**

Новый подъемник легко вмещает малый погрузчик вместе с деталями общим весом до 1000 килограммов.

Первая партия сделана по заказам витебской агрофирмы "Двина" и Кировского шинного завода в России. Заявки поступили из других регионов СНГ. В запасе у заводских конструкторов — варианты малых подъемников для библиотек, столовых, магазинов, других производств. Мощности завода таковы, что он способен обеспечить всеми типами пассажирских и грузовых лифтов не только Беларусь, но и всю европейскую часть России, соседние страны СНГ и Прибалтику.

**Николай НАЗАРОВИЧ.**

## Приходите на юбилеи!

**В Республиканской художественной галерее — новая экспозиция.**

Здесь представлены работы заслуженных деятелей искусств Беларуси Владимира Уроднича и Леонида Дударенко, которые отмечают в этом году свои творческие юбилеи. А поэтому и выставка представляет собой широкую ретроспективу их произведений разных лет.

Их картины притягательны прежде всего своей реалистичностью, "дыханием" времени. Живописцам удалось уловить и отобразить "ауру" целой эпохи. В конце концов, и само искусство и его восприятие — вещь субъективная. Возможно, у кого-то полотна этих мастеров кисти вызовут совершенно другие ассоциации.

**Виктор КУКЛОВ.**

## Такая далекая — близкая Индия

**Успешно окончилось "хождение за три моря" для предпринимателей и банкиров из Беларуси.**

В далекой Индии белорусские коммерсанты подписали учредительные документы об образовании белорусско-индийской торговой палаты.

Расширить сферу сотрудничества с далекой страной намеревается в ближайшее время и правительство Беларуси. На май месяц запланирован визит в Индию Председателя Совета Министров республики Вячеслава Кебича. В ходе визита планируется подписание нескольких межправительственных соглашений.

**Белинформ.**

## Украина аплодирует "Тутэйшым"

**Сразу несколько наград привезла с первого украинского международного театрального фестиваля "Беразіль-93" труппа купаловцев.**

На купаловских спектаклях "Тутэйшыя" и "З нагоды мокрага снегу" в лучших залах известного своими театральными традициями украинского города Харькова яблоку негде было упасть. А жюри, в составе которого были известные театроведы со всего бывшего Союза и даже из-за океана, присудило почетные дипломы художнику Борису Герловану, актеру Виктору Манаеву, режиссеру Николаю Пинигину. Особенно отмечены "создание тонкой атмосферы и уравновешенно светлый подход к творчеству Достоевского" художественного руководителя Белорусского государственного академического театра имени Янки Купалы Валерия Раевского.

Немалый успех выпал и на долю студентов Белорусской академии искусств, представленных курсом Раевского. Белорусская театральная школа получила высокую оценку наравне со щукинской и вахтанговской.

**Лидия ПЕРЕСЫПКИНА.**

## Одичали

**Прослезились охотоведы и экологи, оценив состояние фауны в лесах Толочинского района.**

Свежая перепись "населения" охотничьих угодий свидетельствует: дичи стало, пожалуй, меньше, чем желающих ею поживиться. О какой охоте может идти речь, если в обширных зеленых массивах к нынешней весне, по самым смелым прикидкам, сохранилось чуть более 100 лосей и менее 200 кабанов? Неделями надо бродить по лесной "глубинке", чтобы заметить одного из 18 чудом выживших глухарей. А рысь — вообще одна-одинешенька. В Докшицком же районе, откуда из года в год поступали "липовые" отчеты о наличии зверья, нынче никаких промысловых животных не обнаружено.

**Степан СТАРОЖИЛ.**

